Рычард Бялячыц

# Помню, што жыву

*Вершы,*
*паэма*

Мінск
«Кнігазбор»
2013

УДК 821.161.3-1
ББК 84(4Беи)-5
Б99

**Бялячыц, Р.**

Б99 Помню, што жыву : вершы, паэма / Рычард Бялячыц. — Мінск : Кнігазбор, 2013. — 188 с.
ISBN 978-985-7057-67-2.

Паэтычная кніга Рычарда Бялячыца «Помню, што жыву» — гэта працяг лірычнага маналога паэта пра былое і сучаснасць нашай Бацькаўшчыны, філасафічны роздум пра сэнс жыцця ў рэчышчы любові і духоўнасці. Паэма «І мовіць слова» шмат у чым аўтабіяграфічная.

**УДК 821.161.3-1**
**ББК 84(4Беи)-5**

**ISBN 978-985-7057-67-2**



# Па-над ............................ або Перад вершам



## ПЕСНЯ МАЯ

Хацеў спяваць для ўсіх уволю
І для яе адзіна,
Як не пісаў ніхто ніколі
Пра ўцешную Радзіму.

Не думаў прад высокім шлюбам
І не гадаў пра гэта,
Што кожны, хто яе палюбіць,
Становіцца паэтам.

Цяпер пад вербінаю чулай
Мне песні той не мала,
Абы яна яе пачула
І ціха падпявала.

## ПЕРАД ВЕРШАМ

У сінім акне
Беласценных аблокаў
Сумуе адна напачатку
Не вельмі далёка,
Зусім невысока
Вясна,
Свежай думкай пачатая.

І выдасць мяне
Недарэчнае сэрца
Каторы ўжо раз,
Быццам першы.
Настала пара
Беларусі сагрэцца,
Як мне —
Памаўчаць перад вершам.



## ТВАЕ СЛОВЫ

Ты кажаш, ёсць яшчэ ў мяне
І дні наперадзе,
І ночы.
Не ўзнагароджвай лепш,
О не.
Душа няхай у свет захоча.
Бо мне адведаць іх карціць
Ці хоць,
Як небасхіл вясновы,
Здалёк пабачыць
Пры жыцці,
Каб зразумець,
Што значаць словы.

❊ ❊ ❊

На фоне чэрвеньскіх дажджоў
Шматколерная вышыванка
Шпакоў, сініц, драздоў, шчыглоў
І салаўёў
Над ганкам зранку.

Акно напоўніцца ўваччу
Надзеяй,
Вераю,
Удачай.
Прад першазданніцай маўчу
І толькі так
Хоць нешта значу.



## ІСНАСЦЬ

Акуляры спешна цёмныя надзень,
Гавары, хлусі сабе аб нечым,
Бо ў мяхі аблокаў
Зашываюць дзень
Гарадскія ластаўкі пад вечар.

Думкі светлыя дадому прынясу,
Кожная да рук тваіх прыляжа.
Хай блакітных елак меладычны сум
Цягнецца да існасці пейзажу.

## ЧАС

Час
Нахіленай дажджом,
Разняволенай півоні
Край
Атуліць перад сном
Бел-ружовым
І чырвоным.

Міма, міма пад акном
Будуць ехаць, ехаць, ехаць
Па аблоках
І канём
Смех, раздолле
І пацеха.



## ЗОРНАЯ ЖАРСТВА

Яшчэ не позна і налева,
І ў супрацьлеглы можна бок,
Дзе будуць буры і залевы,
Дзе сонца лашчыцца здалёк.
Аднак дарога толькі ўгору,
Даліны ўслаў туман густы.
Па зорах шлях
І шлях, каторы
Так повен зорнае жарствы.

## НА ВЕЙКАХ БЕЛАРУСІ

Каб не было зарана ці запозна,
Ад воч далей
Набожна і былінна
Спускаецца на выстылыя гнёзды
Вясна, вясна
Нябеснаю пярынай.

Напоўнен ёю дзень,
Табою — ночы.
Праспаў ці не праспаў —
Не разбяруся.
Што будзе,
Ёсць
І што было аднойчы —
Вільготны след
На вейках Беларусі.



## ПРЫ КАМІНЕ ВЕЧАРА

Не раскажу, дзе ты даўно жывеш,
Каб неспакойны і гарэзны вецер,
Як мой чытаеш, затуліўшы, верш,
Крылом за плечы звабна не прывеціў.

Не пакажу, дзе ходзіш ты,
Знарок
Слядоў не пакідаючы прароча,
Каб не заглядваў месяц-аднарог,
Не лез атрутай да цябе на вочы.

І будзе на дасвецці не да сну,
І з-пад мяне зямля ўзляцець захоча,
Каб толькі мне,
Каб толькі аднаму
Уладарыць гэтай светлай цёплай ноччу.

Растануць капяжы.
Скрозь дым і сінь
На словы сыдзе свежасць карамелі.
Чакае праўды
Вечара камін —
Не раскажу,
Не пакажу,
Не ўмею.

* * *

Былі кароткія сустрэчы,
Праменны звон, туман тугі,
След нецярплівы.
І аб нечым
Маўчалі чыстыя снягі.

Лісток календара бязвольны,
Скамечаны,
Ляціць у печку,
Ці
На вечаровае вуголле
Былінкай
Гэты дзень ляціць?



## УСЛОДЫЧ

Ты ўвесь час глядзіш услодыч
З верай
На мяне
І на мяне —
На таго, што, нібы ў сне,
Недзе побач,
Дзесьці побач.

Чалавек быць богам хоча.
Але над табою німб,
Ні спахопішся калі б —
Ты ўвесь час
Глядзіш у вочы.

## АНЁЛАЧАК

Ідзе малітва.
А анёлачак
Сышоў аднекуль да людзей
І, не сумеўшыся ніколечкі,
Да алтара бяжыць-ідзе.

На здзіў узрушанае готыцы
Ад мамы на імгненне збег.
Яна ж прад ісцінай хвалюецца —
Як замаліць дзіцячы грэх.



## ЗОРКА

Разгледзеў я яе ледзь-ледзь.
Над Котрай зоркі злева, справа.
Туды пры мне не даляцець.
Якая мне, урэшце, справа?

Навошта думкі на зямлі,
Навошта я,
Яна навошта?
Якая знойдзецца,
Калі
Між намі
Сонечная пошта?

Не даімчыць ужо сюды
Хвілін усплёсак даўні, яркі.
А ты гартаеш без бяды
Лісты паўночнае маланкі.

## ГЭТЫ ПАХ АЛЫЧЫ

Прамінуць мог, нікім не спатканы.
А ўспамін не расчуліць не мог —
Гэты пах алычы нечаканы
Аж з юнацтва,
З-за пыльных дарог.
Аблачынкай па ветрыку пойдзе,
Хоць рукою на міг затрымай.
Гэты пах алычы…
Цёплы поўдзень,
І садамі дыміць белы май.



## БУСЛОВЫ СНЕГ

Найдаўні сюжэт беларускі:
На дрэве — гняздо,
Побач — мы.
А сёння наш бусел адлускаў
Апошнюю хмарку зімы.

Сняжынкі ўрасталі навокал
Пад звон,
Пад пагодлівы шум.
Адна супакоіла вока.
Адна напаіла душу.

## НАЗУСІМ

Прывезці просіш
Ці паслаць хоць поштай
То квецені,
То зім.
Калі не назаўсёды,
То навошта
І зусім?

А пад акном тваім,
А ля парога —
То цвет,
То зім кілім.
Калі не назаўсёды,
То надоўга.
Падобна,
Назусім.



## ПАСЛЯ НАВАЛЬНІЦЫ

Дрэвы, што ў небе карэннем,
Больш не ўстаюць, не пяюць,
Як да вытокаў не вернеш
Вілію, Нёман і Друць.

Недзе пад раніцай сэрца,
Сам каля зоркі стаю,
Покуль трымаць давядзецца
Песню ў далонях
Тваю.

* * *

Жаўцеюць кніжкі на паліцах
Без ясных воч,
Без цёплых рук.
І толькі сонца
Тварам ніцма
Чытае ўсё як ёсць наўкруг.

Зарой асвечаны палацы.
Трапляць вякам у след люблю,
Каб з Караткевічам вітацца,
Сярпы прынёсшы кавалю,
Каб князем Вячкам
Выпускніцу
Зачараваць упершыню:
Як падавала,
Будзе сніцца
Яна
Ягонаму каню.



## ЛАСТАЎКА

Думае ластаўка доўга,
Як збудаваць ёй гняздо.
Будзе паскрыпваць падлога
Раніцай маладой.

Потым з паветра і сталі
Кожную казку-вясну
Светам усім будавалі,
Песню спявалі адну.

Ціха, завоблачна-лёгка
Момант паспіш пры сцяне.
Быць мне крылатым,
Што зноўку
Светла паверыла мне.

* * *

Трымаўся ліст за голле ледзь —
Ні жыць, ні ўпасці немагчыма.
Няправільна на свет глядзець
Забаранілі вы вачыма.

Пазнаўшы дол, ручай цячэ,
Журчыць, шанукочы пагорак.
Як можна выбіцца яшчэ
Да сонца ў ноч,
Як не па зорах.



## БУРЫ

Электрамагнітныя буры
На сонцы далёкім.
На лютым заснежана-хмурым
Мядзведжыя крокі.

Да неба вядзе палазніца
Вясёлыя санкі.
І мае між зораў прысніцца
Пагляд марсіянкі.

Ад рэчкі вірлівай, ад вяза,
Узняўшыся,
Верыў,
Што стрэнуцца думкі прыязна
З маўчаннем Венеры.

Мелодыя з вокнаў палаца…
Ну, хопіць,
Ну, годзе…
І нельга на ноч хваляваца,
І сон не прыходзіць.

## ЗА НАС

На цэлы год забуду пра вясну,
Пра свежае крыло,
Што неба кроіць.
За нас,
Пра нас
Задумае адну
Зямля
Яшчэ не перажытую аповесць.



## ПТУШКІ І ЗІМА

Адзінокія птушкі зімой
Напалохаюцца моцна самі,
Напалохаюць задумак мой
І, нарэшце, зіму з маразамі.

## СТУДЗЕНЬ

Сонца стылае.
Наўсцяж
Спяць у кронах капяжы.
Манатонны голас ваш
Пад высокай столлю жыў.

Абмінуўшы вёскі,
Дзік
З небасхілу снег абтрос.
Здольны душы абудзіць
Голас толькі з-пад нябёс.

* * *

*У. Караткевічу*

Адышоўся зусім недалёка,
За чысцюткую Лошу.
І толькі.
Можа, светла, утульна і лёгка
За анёлінскім крыжам,
Пагоркам.

Зачакаўся, напэўна, падмогі,
Покуль з зоркамі помніў і думаў
Пра ўтравелыя сцежкі-дарогі
Пад бялюткімі крыламі
Суму.



## СПОДАК ВЕЧАРОВЫ

Настане міг у стынь такую —
Неспадзявана-мілагучна
Для нацюрморта забракуе
Адной антонаўкі пахучай.

Ты прыйдзеш,
Прынясеш тры словы.
І пах антонаўкі пры садзе
Спадзе на сподак вечаровы.
Мы на мяжы нябёс прысядзем.

* * *

Ад сівых праблем ужо нідзе
Не падзецца, але па абедзе
На астаткі лета паглядзець
Праз акно ўспацелае мы едзем.

На зыходзе часу не драмай:
Не паспееш азірнуцца чынна,
Распранаюць красавік і май
Па-над вечар
Словам і вачыма.



* * *

Ты адчуваеш моц сваю,
Узводзіш німбы прыгажосці.
І абязволены стаю,
І не дае азвацца штосьці.

Як мне пад літасцівы хор
Яснавяльможнага палаца
Не заўважаць цябе ва ўпор
І абыякавым здавацца?

Бо ў краю на плячы было
Гняздзечка птушкі адмысловай.
Яе мелодыя — святло,
Што на мае кладзецца словы.

* * *

А вецер у соснах пакрэктваў,
Нам словы імкнуўся запляміць.
Змянілася ты для люстэрка —
На ноч заблудзілася памяць.

Так лета канчаецца, можа,
З рук выпушчанае затанна.
І толькі была ты прыгожай
З разгорнутым днём
Ля фантана.



## ПАЗАПАЭТЫЧНАЕ

Апярэдзіць сонца на хвіліну
Тую, калі ў росах сенажаць,
Каб пабачыць,
Як яно былінна
Ў свеце пачынае панаваць.

Апярэдзіць сонца
І даволі
Паслужыць ваколіцы гатоў.
Я і цень
На цыферблаце поля —
Стрэлкі дзён,
Заступнікі вякоў.

Мне б, як адцвіце на весну лотаць,
Адгрыміць апошні сонны гром,
Апярэдзіць сонейка на локаць,
На хвіліну стаць уладаром.

## ЛЕСУ

Покуль супакойваўся абшар,
Запалілі ясна, у ахвоту
Пры маім старым двары ліхтар
І пры божым —
Зорак пазалоту.

Покуль цішыня з усіх бакоў,
Прызначаю ад крыніц гаючых,
Ад імя сівых лесавікоў
Юбілей прыкотранскае пушчы.

Прыплыве да рук зялёны дым,
Хуткую сустрэчу прадракаю.
Пэўна, каб жылося светла ўсім,
Цёмны лес маўчыць на небакраі.



Яшчэ не ведаеш, што будзе,
Бо толькі-толькі фарбаў час
Пачаўся,
І з-за думкаў людзі
Не заўважаюць нас.

Яшчэ далёка ночка-панна.
І хоць усё даўно было,
Яшчэ не ведаеш, што стане,
Бо ў фарбах тоіцца цяпло.

* * *

Нібы няўцешнай крыніцы,
Нібы снягам, што згарэлі,
Доўгая ноч,
Як не спіцца
Вам на далёкіх арэлях.
Рэхам пакоціцца клёкат,
Стане асенняя вільгаць.
Будзе агеньчык далёкі
І расставацца, і клікаць.



* * *

Ядраныя яблыкі,
Як памяць.
Вылічыўшы дрэва — час такі, —
Палкамі, каменнем, чым патрапіць,
Білі палахліва хлапчукі.

Раннюю, салодкую,
Што пышна
Налілася сокам навальніц,
Біў і я яшчэ спрытней за іншых.
Ёй балела.
Мне ж цяпер баліць.

* * *

Другія суткі
Як вясна.
Пакуль што непадобная
На дзеі бурныя яна,
На строі велікодныя.

А факт над форткаю жыве,
Звініць хвілінай кожнаю.
Няхай пакуль не салавей
І не вятры над пожняю.



## ЯВА

Карэнні зямлю падымаюць.
Бяроза ўзляцець
Спакваля
Гатова
Праз воблакаў замець.
І свеціцца ў сонцы зямля.

За часам і за цішынёю
Зары маладой бранзалет.
Ляцела зямля,
І за ёю
Плыў лёсу падсінены след.

***

*Б. Т.*

Дзень нараджэння жанчыны.
Больш не прадбачыцца свят.
Больш аніякай прычыны
Ў тым,
Што цвіце далягляд.

Музыка светлай вяршыняй
Долю не ўцешыць чыю.
Больш аніякай прычыны
Ў тым,
Што я сёння пяю.



***

Засне ваколіца, але
Ільдом травінку не заглушыш.
Вады фантан
Для ўсіх жыве
І вока радуе,
І душы.

Крыштальны хорам рос з ільда.
І на світанні можа стацца:
Праіржавелая труба —
Слуга высокага мастацтва.

## НЕЗВАРОТНАЯ НОЧ

Будуць цёплыя лепшыя дні
За зімой, што ў марозы агоркла.
Першы раз застанемся адны,
І над коласам — сіняя зорка.

Нам не стане пра што гаварыць:
Перадумана ўсё, перажыта.
Пачакаюць пакуль святары,
Край мінаюць нябёсаў пііты.

Дуб апошні, забыты людзьмі,
Адвядзе ад граху бліскавіцу.
Узаемна спяшаемся мы
Цішыні ўсеабдымнай скарыцца.

Выбіраем адно з усяго
Хараства і гучання прароча.
І плывем паміж двух берагоў
Па рацэ незваротнае ночы.



## ПРАДВЕСНЕ

Паўднёвы бераг — галышом,
Паўночны ў снезе белым.
І на папраўку дзень пайшоў,
Яго дарога пасвятлела.

Пралескай неба зацвіло.
І я, нібы герой былінны,
Душы выпроставаю крыло,
Пагляд спрабую штохвіліну.

* * *

Я непрыкметны госць, як хтосьць.
З дарогі мне б адно напіцца.
Ва ўсім ты бачыш прыгажосць,
І нават у маёй шчарбінцы.

Ад рук адбіўся
І даўно
Ў тваіх краях не запыняўся.
Цябе ж чутно, цябе ж відно
Ў далёкай памяці,
У часе.



## ФОРТКА

Бачыў я,
І не аднойчы:
У тваім акне,
І толькі,
На сканчэнне доўгай ночы
Звіць гняздо спрабуюць зоркі.

Там жывуць лясы і поле,
Прыляцяць навесну гусі.
Толькі я адзін на волі
То сумую, то смяюся.

Свежым саладкава-горкім
Пад акном паветрам стану.
Пстрыкне з рук знаёмых фортка
Мне насустрач словам ранні.

## КАБ ВОСЕНЬ ПОЗНЮЮ ЛЮБІЦЬ

Зімы хароміны-ільды
Заззяюць хутка прад вачыма.
Глядзець — аслепіць назаўжды,
І не дзівіцца немагчыма.

А восень спыніцца дарма,
Нібы жабрачка ля палаца.
У позняй восені няма
Дзе параўнанню затрымацца.

Заблудзім нечакана дзе
І лёгка знойдземся за гаем.
То без прычыны ўзносім дзень,
То беспадстаўна забываем.

Яны ж — уздымуцца абы
І падаюць на вейкі ніцма.
Каб восень познюю любіць,
Паэтам трэба нарадзіцца.



Палоўка мяне — нібы ў хаце,
Другая, як снежны сувой.
Максіме, паэце і браце,
Зноў хочацца волі з табой.

Чакаць не стамляюцца вочы,
Слых чуйны, як свет, нездарма.
Па вуліцы ціха пакрочыў,
Пакінуўшы краю імя.

У цэнтры сцюдзёнай Гародні
Жыў месяц здарма не адзін:
Хрыстос прызямліўся
І згодна
Анёлаў кружыў клавесін.

* * *

Хацелася піць.
Пахі-травы гарнулі.
І раптам адкуль —
Не прачнуцца хаця б —
Вішнёвы кампот
У чырвонай каструлі,
Сукенка пунсовая,
Верш з небыцця.

Прытушаны словамі
Вечар далёкі
На люстрах бакалаў
Астыне найперш…
Хацелася піць.
І дражніліся лёгка
Сукенка пунсовая,
Зваблівы верш.



## ЖАРАБЯ

Наперадзе твае барозны
І росныя лугі.
Як спіць зямля,
Бег ноччу ты ў тумане грозным
Пад дзікі вокліч Стаха-караля.

Наперадзе ўспамін з уздыхам вязкім
І дзень, калі, парваўшы цуглі ўсе,
Даўно паўсюль развеяныя краскі
Ты мне ў пагляды шчодра прынясеш,
Падковы залатыя мая
І твой грывасты золак малады.
Калі цябе ўжо, пэўна, не пазнаю,
Сустрэўшыся ў дарозе праз гады.

## КРУЖЭННЕ

Як, страпянуўшыся, мой конь
З сябе страсае ў цемру гожа
Астаткі сну
І стому дзён,
Пабачыць пашанцуе, можа.

Ляцяць пажоўклыя лісты,
Сняжынкі безнадзейна кружаць.
І слоў, што гаварыла ты,
Зямля пазбавілася ў сцюжу.

А птушкай з рук пераляціць
Недапісаная паэма
Туды, дзе стрэнецца ў жыцці
І літасцівы Бог, напэўна.

Пасобіць усяму прыйду,
Хоць сам не ведаю пра тое,
Як непатрэбных, тлумных дум
Атрэсці воблака начное.



## ШУКАЙ

Шукай, маё сэрца, шукай,
У сцюжы знаходзь асалоду,
Як радасць знаходзіць рука
Ў вірах, каб іскрыліся воды.

Ратунку шукай у грамах,
У дзікіх раз'юшаных ліўнях,
Каб вечар мой сонцам запах,
Як пчолам — лясная маліна.

Спазнаўшы свайго дзівака
Ўва мне надвячэрняй парою,
Шукай асалоды, шукай
На сцежках, не сходжаных мною.

## СА МНОЙ МОЙ ДЗЕНЬ

На час прыцішана-асенні
Хто азірнуцца дапаможа?
Са мной мой дзень святлом і ценем.
І расставацца з ім трывожна.

А нельга, нельга не расстацца,
Калі сумуе зорна хтосьці.
І неспакой малююць пальцы,
А побач ноч
Душой і плоццю.



## НА КРАСКОВЕ

Не ведаю, як жыць ужо нанова,
Як будзе на зямлі цяпер далей.
Аднак нідзе так не клюе,
Як на Краскове.
Нідзе няма,
Як тут, такіх лілей.
Русалкі на Купалле выплывалі
З-пад месяца ў вадзе,
З-пад паплаўка.
Расстанне жоўтае
На сінім пакрывале
Над лёсам самаго вадзяніка.

## СЁННЯ

Калі канчаецца вяселле —
Звон цішыні на ўсім двары.
Шпакі ўзмужнелыя паселі
Перад адлётам угары.

Дождж запацелыя стагоддзі
Змывае восенню ў раку.
І, зачакаўшыся, нам годзе
Стаяць ад зорак убаку.

Ты апранута несезонна
Ў абдымак вечара тугі.
Усё парадкуецца сёння,
Каб не патрапіць пад снягі.



## У ВЫШЫНІ

Дзюбай малюе бусліха:
Захад,
Раса маладая…
Бусел, падумаўшы крыху,
Ціха на сонца сядае.

А бусляняты на ўздыме
Крыллем махаюць упарта:
Першы палёт над радзімай
Дакляраваны на заўтра.

## ПРА БУСЛОЎ І ЧАЛАВЕКА

Хоць лёс чалавечы трывожны,
Яны за дарадцаў былі,
І сёлета бліжай як можна
Пазаклекаталі буслы.

А потым пад клёкат і песні
Яны, як зямля зацвіце,
Сабе
І ў калыску нанеслі
Вясёлых крыклівых дзяцей.

Сцішэлі стамлёныя пожні,
І перш, чым прыйшла Каляда,
Узняцца прад восенню кожны
Паспеў на крыло ад гнязда.

Дарога дадому прыбрана
Ў туманы.
А думка вядзе.
Зблудзіў чалавек нечакана,
А птушкі ізноў у гняздзе.

Закінуўшы шыю за шыю,
Яны, як цяпла не стае,
Іголкамі дзюбаў пасшыюць
Спадзевы людзей
І свае.



## ЛІСТАПАД

Вам надарылася шапіто.
Голас мяккі
І вечна ўлюбёны.
Не маўчыце,
Як маеце што
Перадаць пад мой роздум зялёны.

Тут ні крыўды, ні гневу на вас
І пагляд на дарогу вясенні.
Не маўчыце,
Як скончыўся час
Спадзяванняў
І нават цярпення.

Хтосьці з клёнаў увосень штораз
Шле лісты ў пажаўцелых канвертах.
А прыпомню ваш голас
І вас —
Спатыкаюцца
Словы
На ветры.

## САД

І скрыпне, зірнуўшы назад,
Планета іржаваю воссю.
Казалі, пакінуты сад
Не ўспомнілі людзі пад восень.

Здавалася, хай адпачне —
І пырснуць пялёсткі, як словы.
Дагэтуль не верыцца мне,
Што сам пад анёлам часовы.

# На ..................................
# або
# Песня пад мароз



## ГАСЦІНЕЦ

Забыльнеюць трывогі чужыя,
Слодыч, вера,
Надзеі тугія.
І займаецца ў травах,
Бы ў жылах,
Свежа выдыхнутая настальгія.

У праменнях, тумане, у дыме
Тытунёвым салодкім і горкім
Ногі боскія,
Ногі худыя,
Ногі збітыя
І маладыя
Пасыпаў ён цяплом на пагорку.

І гасцінец, засцелены мохам,
Ведзьмакам хіба толькі патрэбен.
Непатрэбнаю стала дарога.
Запусцілі гасцінец на неба.

## НОЧ У АСТРАЎЦЫ

Месяц — і лету надыдзе канец,
Лоша зашыецца ў верныя лозы.
Ціхі, як неба над ім,
Астравец,
Свежы, як росы, як ранак, цвярозы.

Фотаальбом.
Ні цябе, ні мяне.
Іншыя людзі смяюцца заўсёды.
Паўгарадка ў прызабытым акне.
Для хвалявання ні кроплі нагоды.

Высвеціць памяць твае валасы,
Нібыта хмары — маланка.
Водгулле дзікай забытай красы
Стане над Віліяй зранку.

Покуль анюціны вочкі цвітуць,
Покуль мы дзелімся снамі,
Шчасця шукаюць геолагі тут
Следам за мною,
За намі.

Кажуць, надзейная вельмі зямля,
Самая стойкая на Беларусі.
Атам, завезены кімсьці здаля,
Хтосьці прыжыцца прымусіць.



Лёгка дакосім сваю сенажаць,
Пахі пшаніцы дасушым.
Нібы ад холаду,
Нібы дрыжаць
На даляглядзе душы.

## ДАЖДЖЫНКІ

А дні прастуюць спінкі
Пад промнямі зацішнымі.
Замерзлыя дажджынкі
Спрабуюць быць пупышкамі.

Запахне сырадоем.
Пад чараванне месяца
Адна перад адною
Спрабуюць
Сонцу цешыцца.

Як боль,
Як палавінкі
Пад раніцамі пышнымі
Сагрэюцца дажджынкі,
Заручацца з пупышкамі.



## ЧЫТАЮЧЫ

Таленты зары-пары нябеснай,
Ходзячы аднойчы па зямлі,
Засвяцілі па-над краем песні,
Бы па лёдзе трэснутым прайшлі.

Гром страсае птушак.
Зоркі свецяць,
Па вачах спускаюцца сюды.
У любові — ад Сусвету дзеці
З думкаю
На твары
Пра гады.

* * *

Не выб’еццa сінь з берагоў,
Пупышкі да маю трываюць.
Патэлефануеш ізноў —
Скранеш з-пад Мядзведзіцы памяць.

Вышыні мінеш па жыцці,
Брады, небасхілы пяройдзеш.
Спяшаем.
А не перайсці
Праз попел і дым
Агародзішч.



## ПАСЛЯ БУРЫ

Плыў час бездапаможны
З зялёнай цішыні.
Бяздомныя вароны
Кружыліся адны.

На могілках — трывогі,
Дзень вока не самкне.
І лес стаў аднаногім
Там пры адной сасне.

І змоўчаць нават мусіў,
Калі вясну прынёс,
Там аднаногі бусел
У глыбіні нябёс.

## ТРАВЫ

З гадамі радзей і радзей
Мы, дзень палюбіўшы вясёлы.
У мяккія травы кладзем
Пад сны каляровыя голаў.

Пакліча яшчэ сенажаць
Пад ранак цягучы і золкі
Па травах мядовых шукаць
Гаючыя матчыны зёлкі.

Задумаемся неўпапад,
Сышоўшыся злева і справа,
Ці выцерці ногі да свят
Аб самаахвярныя травы.



## ГІСТОРЫЯ

За тыднем будняў — дзень святочны.
І пасмяяцца, і паплакацца
Паспелі пры лясным куточку
Напаўзабытыя Сабакінцы.

Крывіначка ў сукенцы новай.
Знікаў баяраў след за вёскаю.
Хрысцілі вёску на Пакрова,
Гулі званы зрання пакроўскія.

А Нарбут быў на смерць гатовы…
Пякліся на ствалах засечыны.
Ў перадваенным Нарбутова
Сышліся жыцці чалавечыя.

І Першамайск.
Здалёку родам,
А зблізку вольнай пагалоскаю
Сышліся тут,
Бы ў Котры воды,
Легенды з праўдаю высокаю.

* * *

Здаецца, сёння пяцьдзясят
Плюс пяць яшчэ,
Нібы дзіцяці.
Па восені дубочкаў рад
Саджу непадалёк, пры хаце.
Зашамацяць ля ног лісты,
Захмеленыя колісь маем.
І не паверыш нават ты,
Што юны верш заўжды трымаю
Вачыма,
Каб у твой пагляд
Прынесці, нібы німб, з дарогі.
Ну, што такое пяцьдзясят
Плюс нейкіх пяць
Для маладога!



## ТАРКА

Сярод лістападаўскай раніцы
Далёкай, шчымлівай парой
Узыдуць бліны, зарумяняцца
Над хмарай патэльні старой.

Матуліны крокі пад поўняю
Сляды затрымаюць твае.
І дзёрзкая тарка знаёмая
Драмаць, сумаваць не дае.

## ВЕЦЕР

Якія б сцежкі ні вялі,
А чалавек нябёсы слухаў,
Калі бясчынствы на зямлі
Ад канцылярскае разрухі.

Ляцяць, ляцяць у час такі
На дол пылінкі іскры боскай.
Ляцяць календароў пісткі
І дзён вясёлых адгалоскі.

Затлуміць вецер галаву,
Сам ацяробкам звісне з неба,
Бо покуль лодка на плыву,
У ёй не чуе ён патрэбы.



## ВОБРАЗЫ ЛЕТА

Перш чым ахопіць палена агонь,
Кожнае выгладжу лоўка.
Раптам з глыбокай зімы на далонь
Божая пырсне кароўка,
А ці стракаты матыль з-пад кары
Ў цёплае скокне,
Як марыў.
Холад за вокнамі нюх навастрыў,
Чуе, чакае ахвяру.

Гэта было,
І не надта даўно.
З кожным здараецца гэта.
Самаахвярна ляцяць у вакно
Вобразы цёплага лета.

## НОЧ НА ПАРУ

Пра што казаць глыбокай ноччу
Сярод дажджу, сярод слаты,
Калі бяссонніца не хоча
Прамокнуць аж да хрыпаты.

Ёй захацелася, здаецца,
Перачакаць са мною дождж.
Сама ж даўно на пару з сэрцам
Там, дзе віруе маладосць.



* * *

Пад ногі кладзецца ігліца,
І шоўкам трава дзе-нідзе.
Прасілі мяне навучыцца
Паверх акуляраў глядзець.

А глянуў —
І думкі запэцкаў,
Не ведаў, пакуль не прыдбаў,
Якое такое калецтва —
На свет пазіраць спадылба.

## НЕЛЮДЗІ

А людзі здаюць людзей —
За грош
І каб напаскудзіць…
І думка гняце часцей,
Што, пэўна, здаюць не людзі.

Для здзеку, глумлення, бяды
Здаюць,
За вугламі судзяць.
І сведчаць здавён гады —
Радзіму здаюць не людзі.



## СТОЛЬКІ НА ГЭТУЛЬКІ

У нядзелю ды пры свяце
Ясна, сонейка, свяці.
Акружылі — зяць да зяця —
Цёшчу мажныя зяці.

Легкавушак панаедзе,
Двор бітком і сенажаць.
Зяць да зяця —
Пры абедзе
Цёшчы нават не відаць.

Не чувацца нават цёшчы.
Не адзін у цёшчы зяць.
Толькі бліскаюць калёшы,
Толькі свінні верашчаць.

Птахі ў вырай —
Дзеці ў футры.
І чакаюць цёшчу зноў
Сад грабштынны,
Поле бульбы,
Бурт галоваў-буракоў.

Цёшча — ведзьма,
Цёшча — прыма,
Цёшча бітая жыццём.
Столькі раз ёй быць любімай,
Колькі вызнала зяцёў.

* * *

У неба цёплы край закуты,
На травах россып белых рос.
Не можа быць, каб зорны люты
Лясы за плечы не патрос.

Ты напалі, як колісь, печку,
Каб можна ўголас, проста ўсмак
Памарыць аб далёкім, вечным,
Пакуль сініца на руках.

А там вясна.
І нашы дзеці
Не зразумеюць, пэўна, нас,
Як вывучаць па інтэрнэце
Пачнуць у профіль і анфас.



## НЕ АПОШНІ ГОД

І яшчэ адзін верш напішу,
А ты поле за вёскай засей,
Каб маю зразумелі душу
І табой захапляліся ўсе.

А як скончыцца волі запас
І трываласці божае…
Што ж…
Не запозніцца сонца да нас,
Падаспее ўстрывожаны дождж.

Пасмакуем дзяўчат каравай,
Заваражым не абы-каго.
Толькі верыць заўсёды давай,
Што жывём не апошні год.

## ЯШЧЭ

Яшчэ прышкольныя абшары —
Як сачыненне на паперы.
А ўжо вядома, што амбарны
Замок прысмокчацца на дзверы.

Яшчэ ручэй на вокнах гнуткі
Павабіць за сабою вока,
А ўжо вядома, што праз суткі
Скуе мароз усё навокал.



За Бярэсце, за сённяшні Брэст
Вучні з’ехалі ў светлую пушчу.
Не хапіла бязвоблачных месц.
Пазайздросціць дзяцінству я мушу.

Міма вёсак паехалі, рэк,
Праз тугі далягляд адмысловы,
Дзе трымаўся жыцця чалавек
За дарогу,
За веру,
За слова.

І, адзін з аднаго на зары
Промні злізваючы без астатку,
Пранікнёна ўзірацца зубры
На Гусоўскага будуць нашчадка.

## ДЗЕНЬ ДРУГІ

Пахнуць травы.
І яшчэ
Нам чакаць з табою.
Заяц ногі апячэ
Чэрствасцю людскою.

Велікодны дзень другі
Пад паўночны вецер.
І зямныя берагі
Сняць пад ранак квецень.



* * *

Прывыкай да мяне, прывыкай —
Заклінанне маё і малітва,
Як да рэчышча колісь рака
Сваім целам,
Душою прывыкла.

Сярод праўды, вясёлкавых дзіў
Днём халодным і хмельна-зацішным,
Як па зорах,
Па словах ідзі
І не вер, надзівіўшыся, іншым.

Пазалочаны поўняй, санет
Мне найграе пад вечар асенні,
Як табой заклапочаны свет.
І няма мне
На роздум імгненняў.

## ПРЫСВЯЧЭННЕ

Увекавечвае здавён
Гады і краскі
Ў нямую ноч,
На ўзлёце дзён
Генадзь Вінярскі.

Уславяць Нёман без мяне
І не захваляць,
А ён абняць не праміне
За плечы хваляй.

Прыходзіць свята спакваля
Глытком з крыніцы.
Як геніяльна, што зямля
Нам круглай сніцца.

Як ні глядзі, як ні ідзі
Па завірусе,
А тут заўсёды не адзін
Ты — беларусам.

І будзе верш апошні рад
Яму па-барску,
Калі ад ніў пакліча ў град
Паэт Вінярскі.



## ПАД РУКУ

Бог дзяліў назаўсёды і мераў
З дабрадзейных, сыпучых жмень.
А выводзіліся браканьеры
З яйка д’яблавага ў хмуры дзень.

Я зайздроснік, магчыма, ганебны,
Але слова за праўду дазволь:
Калі зноў скаланаецца неба,
Мне б патронаў,
Дзе гнеў
І дзе соль.

## ДЗЯЦЕЛ

Дзяцел будзіць дрэва,
А яно, старое,
Чуе яго дрэнна
Цяжкаю парою.
Дзяцел будзіць дрэва,
А яно не бачыць,
Што вясна, што трэба
Жыццё перайначыць.
Сніцца яму, пэўна,
Ранкам свежа-сінім
Ціхі шэпт напеўны
Тонкае асіны.

Карані, трывайце:
Ранкам у галіну
Светлае закляцце
Павучок укінуў.
Словам, на паперы
Зноўку і нанова
Я таксама веру
Дзятлавым замовам.



* * *

Аблокі плывуць
Па-над полем карытамі,
І вуліца пеніцца
Хвалямі мылкімі.
Смяецца бляшанка
Няўмела адкрытая
Трыма
Пажаўцелыміількамі.

Ты мрооіш стракатым
Прасоленым ветразем,
А побач маўклівая
Вечна загадка — я.
Цягучы шансон
Накрывае пры беразе
Асенняй прамоклай палаткаю.

## ВЯЗКА

Ціха.
Вязка сухастою
На змярканні дагарае.
Ён любіў жыццё за тое,
Што не зведаў тога раю.

Так і скончылася лета,
Нібы лес уміг прад намі…
Жыў дзівак
І аж дагэтуль
Аб сабе напамінае.

На дарозе позняй, гразкай
Пасівелы час,
Ды чуткі.
Не данесеная вязка,
Не даказаныя думкі.



## ВОЗЕРА

Возера Краскова
Ў кветках белых.
Цёмная вада, дзе рыбы поўна,
Чорных карасёў,
Пераляцела
Птушка чорная,
Як ноч,
На поўнач.

Шум-чарот.
Вужы між паплаўкамі.
Безнадзейна дрэвы зарыпелі.
Абняла б халоднымі рукамі
Жудасць, каб не белыя лілеі.

У святле іх блісне
Леска-памяць —
Бераг журавінкамі засланы,
І дразды літоўскія спяваюць,
І зубры ўзіраюцца ў туманы.

Вечар прамінае даўгавязы
За мяжу
І за стагоддзі ўпотай.
Ведаю:
Свайго чакаеш князя —
Шолам пры табе,
Лілеяў цнота.

## ВЯЧЭРНІЯ СТРАСЦІ

Хакей-футбол,
Футбол-хакей.
А за акном вячэрні клёкат.
Хто ёсць мужней, а хто — мудрэй.
А я ўбаку,
Непадалёку.

Прыходзіць час, нібы сяўбе
Пачацца
На застылым полі.
Не адпускае ад сябе
Святло пражэктараў на волю.

Мячы падносіць не па мне,
І з сеткі даставаць — тым болей.
А пакланяюся вясне,
Што прыйдзе ўся
Са страсці й болю.



## РАЗ, ДВА...

Раз наўцёк, другі наўцёк
Сінявокі Васілёк.
Раз урок, чацвёрты ўрок —
Дзе знарок, дзе незнарок.
Раз дыктант, другі дыктант —
Васілёк не музыкант,
Не спартсмен на ўсе лады,
І ўцякаць няма куды.

* * *

Міколку ў школе дрэнна,
Праходзяць дні не гладка,
Бо што ні ўрок, то тэма,
І так аж шэсць заняткаў.
Міколка спіша прытка,
То самалёцік пусціць.
У галаве і ў сшытку
Штодзень, заўсёды пуста.
І з гэтакага толку
Прынесла чутку маме —
Не выканаў Міколка
Вучэбнае праграмы.
Вясна ледзь пачалася,
Зязюля кукавала,
Што хлопцу ў трэцім класе
Вучыцца.
І нямала.



## СМЕХ

Смех — мой коцік.
Супакойся
І не смейся з верша.
Плямка чорная на носе,
А таму і смешна.

Стаў праз год-другі любімцам —
Не ўпусціўшы шанца,
Просяць прад ядой памыцца,
Просяць пакачацца.

Быў навучаны праз меру:
Мог у момант вока
Па пакоях усе дзверы
Адчыняць з падскокам.

Ды не стаць той славе звонкай,
Бо забыта мною,
Што яшчэ ёсць дзверы звонку
Летам і зімою.

## НА СВЯТА

Калі мароз за сонейка жвавей,
Калі туманы туляцца да рэк,
У горадзе над Нёманам жыве
Заўжды вясёлы словам чалавек.

Тутэйшы, родам-племенем здаля,
Крывіцкім лёсам мечаны,
Як мы,
Другога чалавечка спакваля
Гадуе ён, знаёмячы з людзьмі,
З усходам,
Што прысніцца потым змог,
З краямі, дзе згусцілася трава.
Калі ж, калі
Дапытлівы Цімох
Спазнае,
Хто над ім калядаваў?



* * *

Я, юны, у год высакосны
Капаў на пяску без падмогі.
Не ведаў, што корань у соснаў
Заглыблена-доўгі.

Ляцелі буслы па-над Чэрняй,
Пакінуўшы цёплае месца.
Прыйшлося на месяц вячэрні
Спачынуць прысесці.

## НАПЯРЭДАДНІ

Яшчэ нябачны,
А па ўсім — цыбаты,
Нястрымны, прыткі,
Пусціцца калі.
Дзве тысячы, дзве тысячы дзясяты
Амаль што не кранаецца зямлі.

Навошта санкі,
І якія лейцы…
Хоць зблізку глянуць,
Хоць бы праняло
Паветрам свежым,
Як ён пранясецца,
Узняўшы дні і ночы на крыло.

Выпускнікі падораць з ёлкі тайны,
Забытыя Снягурачкай і мной.
А ноччу пышна, велічна і танна
Снег прыбярэ
Паўсвета за сцяной.

Паклічаце на свята,
Пэўна, скора,
Сонцастаянне здарыцца якраз.
Хоць вуліца, і дом, і гэты горад
Нікому не вядомы,
Як і час.



* * *

Пакуль развважліва і горда
Зямлю праменне наталяе.
Яшчэ не ведае прырода,
Што наляціць віхура злая.

Замуціць ясную крыніцу,
Падняўшы з друзу дні ліхія.
І застанецца піць-напіцца
Вечназялёнай настальгіі.

І вуркат чуецца пагрозны,
Хваста раз'юшанага плёскат.
Але яшчэ
Чысцей за слёзы
Ёсць для радка
Нябёс палоска.

## У ДАРОЗЕ

Дзень святочны, незвычайны
Залаціцца аж.
Бабка бабку велічае
Паняй, не інакш.

Едзем так.
Удзячны многа
Бабкі па чарзе:
— Дзякуй богу,
Дзякуй богу.
А шафёр вязе!

Затуманеная радасць
Не пакіне нас.
Сталі бабкі хоць на старасць
Панямі якраз.



* * *

Свет, незразумелы і таемны,
Больш і больш люблю,
Што ён трывае,
Як ізноўку усміхнешся мне ты
Ў лузе
І ў акне трамвая.

Толькі вобраз…
Голаснай хвілінай
«У» не скарачаю.
А навошта?
Станаўлюся вечным і былінным,
Нібыта бязадрасная пошта.

## У ЗВЯРЫНЦЫ

Ім бы лес, балота, сенажаць
І глыток сцюдзёны небакраю.
На ільва з надзеяй пазіраю:
Мышы
Навучыліся ж
Лятаць…



Накіп гарачага дня
Стыне над лесам памалу.
Ты засынаеш адна…
Вось недасяжнаю стала.

Сумны радок дапісаў —
Памяць навокал не тая.
Ліверная каўбаса
Ў час летуценняў вяртае.

* * *

Холад доўгай восені плыве
Па бясконцым Нёмане між намі.
То ў тумане возьмецца правей,
То да рук памкнецца маразамі.

Дачакаўшы добрае пары,
У святочнай кідкай галерэі
Тэлевежа ёлкаю гарыць,
Толькі нас ніколечкі не грэе.



## УРАГАН

Маланкай прастрэлены, шэры,
Аж да небасхілу намок.
І нельга пазбавіцца звера,
Тым больш прыручыць ні на крок…

А дзень, напачатку зялёны,
Цярпеў, покуль збавы чакаў.
На доле бярозы шалёна
Ўхіляліся рук чужака.

Ваколіца сцішыцца толькі,
Як вернецца далеч і час.
І будуць высокія зоркі
Разумна ўзірацца на нас.

## СУМНАЯ ВЯЧЭРА

І нават звыклага святла
Няма.
Аднекуль
Вячэра сумная сышла
Па чалавеку.

Скрозь цемень —
Зрок,
Скрозь вецер —
Слых
Абудзіць свечка.
Адна за ўсіх,
Адна на ўсіх,
Адна навечна.



## ПАЧУЛАСЯ

Падручнік,
І радасць, і боль.
Ты штосьці ў былое сказала.
Прыпомніўся Сыс Анатоль
І голас над мёртваю залай.

Калі ж замяцеліла скрозь,
Пачулася ўсім адмыслова:
Так сцялася дрэва ў мароз —
Ні крокаў,
Ні нават паўслова.

Мой горад чакае мяне,
Паеду, паеду ў Гародню.
Навошта пры хмурай сцяне
Чакаць нам з табой Велікодня.

Ні горад суровых падзей
Пазбыцца не вымаліць неба,
Ні я ні на дзень маладзей
Не буду.
Не стану.
Не трэба.



## ЯНА

Ставок на бераг хваляй коціцца,
Яшчэ пахмурны і рабы.
А скрозь пагойдваюцца коцікі
На водах,
Коцікі вярбы.

Яна спатоліць і памучае,
І расплывецца па баках.
Увысь ратуецца,
Жывучая,
З глыбінь
Надзея рыбака.

## ПАНЯДЗЕЛАК

Даўно пагляд не маладзенькі,
І словы — казкаю старой.
А ўсё ж, цяжкія панядзелкі,
Вы — парасткі перада мной
І квет гаючы і шчымлівы,
Які штораз асвежыць рад.
Жыву,
Прыходзіце калі вы
Пасля шыкоўных свят
І страт.



Старажытныя мы антыподы.
Па вясне, у расквечаным маі,
Кожны здольны, руплівы і горды.
Я тапчу,
Ён зямлю падымае.

Пацяшае адно нас, вядома:
І газон,
І шыкоўныя туі…
А як змрок,
А як дождж,
А як стома,
Я, забыўшыся, сплю,
Ён працуе.

Покуль падаюць воблакі ў воды
І здарожаны дзень пройдзе самы,
Антыподы зямлі даспадобы:
Помніць ён пра мяне,
Я — таксама.

## ШКОЛЬНЫ ДВОР

Цішэю.
І надоўга
Прызадумаюся зноў.
Развітальнаю дарогай
Адпраўляю журавоў.

Ад магутных крылаў холад
Сыдзе росамі ямчэй.
Зацвітаюць вокны школаў
Ціхім роздумам вачэй.

Нёс і я букецік звонкі,
Нібы з воблачка,
Са шкла.
І тады ты незнаёмкай
З лета пышнага прыйшла.

Школьны двор.
Тут сонцам памяць,
Што нам верасень дарыў.
Нават сцежкі дарастаюць
Да дарог
У тым двары.



## МЕДАВУХА

Ты медавухай
Думкі напаі,
Каб заблудзіўся я ў тумане-дыме
Там, дзе ў садах не спалі салаўі
І вішні нас чакаюць маладымі.

Спакою векавога не паруш.
Я ценем міма квецені прайдуся.
Дзівацкі дзед
Спазнаць грахоўных груш
Задумаў на дармовай медавусе.

## БАБУЛІН ЖЫЖА

Бабуля палохала Жыжам,
Што ў печы таемнае жыў,
Цыганкай, якая ні крыжа
Не ведала, ані мяжы.

Змагаўся са здрадай, з адчаем,
З навалай, прыцісне калі.
І нават не раз прызначалі
Канец усяму на зямлі.

А выжыў без мудрай прычыны,
Бо мусіў,
Бо штодзень бярог
Бабуліны словы,
Айчынны
Людскі самавіты парог.

Пад верасень поўдзень падстрыжан.
А стане над хатамі звон —
Бабулін затуліцца Жыжа
Ў маю векавую далонь.



## РЭЧКА

Ад першай сняжынкі — зіма
І аж да апошняй убогай.
Мядзведзіцай рэчка сама
Пад снегам кладзецца ў бярлогу.

Іскрынкі на пойме збяры,
Як рэчка вясёлаю стане,
Як сціхнуць у пушчы зубры
Пра Вітаўтава хваляванне.

На бераг сыходзіў Адам,
Нёс вербу, прыкрытую дымкай.
Утульна і цёпла гадам
У котранскіх свежых абдымках.

## КАРАНІ

Памаленьку ўсё агораем —
Не нудзіцца ж пад гарой.
Мая думка стала коранем,
Кронай будзь вясёлай ёй.

Хоча дым узняцца воблакам,
Хата мкнецца ўвышыню
І рукой маёй навобмацак
Падкідае гарт агню.

# Ува
# або
# Насустрач



* * *

Ты не ведаеш, пэўна, пра гэта:
Восень тут,
І ваколіца мокне.
Больш не будзе вясковых паэтаў:
Занавешваюць светлыя вокны.

Іншых ліст задуменнасцю клейкі
І асвежыць, і ценем акіне.
Пра чарніцы і іней на вейках
Стануць думаць і дбаць гарадскія.

А пад раніцу воляю боскай
Між шпалераў, пластмас і паркетаў
Будзе сніцца замглёная вёска
І паэтам, і дзецям паэтаў.

## МЛЫНАР

*А. М. Максімчыку*

Па снезе набрынялым
Цямнотай і вадой
У ноч іду памалу
Хадою маладой.

Цяпла і думак поўны,
А не да месца рад —
Пазасыналі вокны
Даўно халодных хат.

Як узыходзіць поўня,
Сцішаючы абшар,
Яшчэ занадта помню
Гучанне слоў
І твар.
Рукі гарачы поціск
Пад пошум каласоў.
Навошта замаркоціў
Свой млын,
Як не прыйшоў?

Вяселляў шматгалоссе
І клопаты буслоў.
Вячыста як вялося,
Імгненна як прайшло.



## ВЁСКА. ВЕЧАР

Паўночны вецер.
Ціхая вячэра.
І зорка, як нявестка, тут адна.
Калі на вёсцы сумна, мокра, шэра,
Пакліча прызабытая вясна.

Мой першы горад —
Пэўна, што апошні —
Імгненны, незабыўна малады.
А потым… крыгалом, дарогі, пожні,
Калядкі фантастычныя,
Дзяды.

У свеце непатрэбны,
Зноў дадому
Прыйду на задуменныя масты.
Маўчу пра вёску.
Сумна, як малому.
Чакаю, што пачнеш пра горад ты.

## ХВАЛЯВАННЕ

Ледзь вочы на золку расплюшчыў,
Мне ветліва паабяцалі —
Над краем мядова-пахучым
Электрамагнітныя хвалі.

Здалёку праз час некаторы
Ты іншай прыйшла планецянкай.
Шчаслівы ці змушана хворы,
Я не ўцямлю цяпер аж да ранку,

Навошта і хто ты такая —
Сузор'і мне не прадказалі.
Яны ці сняжынкі, ці камень,
Электрамагнітныя хвалі.

Каб ціхай вячэрняй малітвай
Сумненні мае адхіліла,
Услодыч хоць раз адпачні ты
На вейках майго небасхілу.



## СВЯТЛО

Па сасонніку — стрэс.
У аблокі
Паланіла вярхі дзе-нідзе.
Азірніся
На мой адзінокі,
Невясёлы, захмараны дзень
І прыслухайся
Профілем чуйным
Да маіх задуменных вачэй.
Што дыханне спадзеву пачуеш,
Ёсць надзея і прага яшчэ.
Недарэчны, далёкі псіхолаг
Як бы быў і як бы не было.
У пакоі і пуста, і гола,
Каб не лёгкае ваша святло.

## БІТВА

Падобна, што яна мяне чакала
Ўсю ноч за занавешаным акном.
Ледзь сон сышоў за ценямі памалу,
Глынула цалкам,
Нібы хвалю сом.
Учэпістая, прыкрая праблема
Абклала, заняла зубоў у сто.
Спачатку нетаропка, нават лена,
А потым — бітва.
Галасы і стогн.

Ізноў, ізноў на белае паперы
Даводзіць свету,
Покуль бог бярог,
Што homo sapiens,
Пазбавіўшыся цемры,
Устаў на ногі
Дзеля перамог.



## ЗІМЕ

Супакой, астудзі, замарозь,
Замяці аж па самыя зоркі гладка
Ты мяне і ваколіцу скрозь,
Каб усё пачынаць спачатку.

Каб усё — на вякі, назаўжды,
Без сумненняў, бяды і страху,
Пры радзіме,
І каб маладым,
Каб аднойчы — зараз,
З размаху.

Ажно не.
Я маліўся дарма.
Тыя ж твары,
І словы,
І высі.
Ты змаўкаеш на ранку сама,
Памыліцца сама баішся.

## ЛЯ ВАЛУНА

Валун з-пад гневу і з-пад куль.
Неабыякавы ён мне:
Ні сам не зрушыцца адсюль,
Ні гром яго не зварухне.
Вякі паслалі аднаго
На цішыню і неспакой.
А ты аднойчы да яго
Памкніся цёплаю рукой.

Ды ты пытаеш, як жыву
І што на свеце даражэй.
Прысядзем ціха на траву
Абое да яго бліжэй.
Маўчаць, як ён, хачу.
Дазволь.
А час каменнай глыбай пах.
Лясы і воды навакол
Пазаіскрыліся ў вачах.

Няхай спахмурыцца зрання
І замець потым не міне.
А ці кранешся валуна,
Каб абагрэць на міг мяне?



* * *

І што з табой у снезе бавіцца?
Струну дарожную крану —
У Васілішкі праз Сабакінцы,
На Гродна цераз Астрыну.

Дарогі дзідамі, асколкамі
Перагароджаны не раз,
Званамі вечнымі высокімі
Наканаваныя для нас.

Сам зберагу прад думкай смелаю
Сваю любоў,
Сваю зару.
Шляхі чыесьці затравелыя
Я ўсхвалявана паўтару.
Не больш…
У свеце затуманеным,
Дзе хуткай ластаўкай жывеш,
Дзе і паветра стыне тайнамі.
Не больш.
Аднак жа і не менш.

## РАЗЛАД

Можа, святы пакуль што адкласці?
Хай сом
Узламае ільды
І забуду зіму я.
Нам не стала пра што гаварыць за сталом,
Ад таго і абрус да вясны засумуе.

А паедзе за мора няўзнак шапіто,
Прыйдзе дождж не ў гуморы,
І ў дзікім загуле
Стане вусцішна
З думкай адзінаю, што
Больш для нас кукаваць
Не збярэцца зязюля.
Не паўсходзяць вяргіні,
І сонца бачком
Прабярэцца на захад далей,
Аж за памяць…
Лепш ужо не збірацца за поўным сталом,
Калі вочы вачэй не жадаюць.



## СУСТРЭНЕМСЯ, ЯК ЗОРКІ

Не ўсё ж зіма.
Не ўсё ж і дрэнна,
Калі агорне светлы боль
І так усцешацца карэнні,
Што не стрымаць вяршалін больш.

Ізноў сустрэнемся, як зоркі.
Далей ад воч, на схіле дня.
Наш час загадкава кароткі.
Калі ж я ў пальцах гром суняў,
Куды ляцім,
На што гатовы —
Спытаць адно яшчэ хацеў.
А выпадковае паўслова
Саромелася блізкіх цел.

Зямля і ты ў свяжутка-белым,
Як фотаздымкі на сцяне.
Сягоння ты на свет глядзела
Са мной,
Сумуючы па мне.

## ХВІЛІНА

Аднойчы глянеш угару —
Там нецярплівы свет які:
Цяпло чупрынай мкне да рук
І пысай хоча да рукі.

Трывай грахоўнаю душой,
Нічым хвіліны не крані.
Хай травень першаю расой
На той напіша цішыні.



## СОНЕЧНЫ САД

Па-гаспадарску сёння сяду
Ў руплівай калясніцы.
Падпоры жнівеньскаму саду
Вязу, каб не спазніцца.
Ты ў сад увойдзеш па-дзіцячы,
Праменне кроны мые.
Прызнаюць вусны раптам смачна
Падпоры залатыя.

## САЛОМІНКІ-ТРАВІНАЧКІ

Саломінкі, саломінкі —
Закладчыцы мае.
Ваш след заўсёды тоненькі,
А моцна выдае.

Травіначкі, травіначкі —
Дурман гадам якраз.
Адновіце крыві яшчэ…
Як не таптаць мне вас.



## ДЫХАННЕМ РОЎНЫМ

Ледзь-ледзь прыкметнай
Можа быць мяжа
І вогненнай, што выгарыць без шуму.
Хвіліну ў травах мяккіх паляжаў
І паўжыцця нанова перадумаў.

Вось-вось па самай шчырае вясне
Прыб’ецца чыйсьці след да следу свежы.
Дадумаюць астатак за мяне,
Нібы навечна адпрастуюць межы.

Закапае на снег
З высокіх брам,
Як стане поўня
Белай аблачынкай.
Зямля дыханнем роўным
Сцвердзіць нам:
Употай жыць і думаць
Немагчыма.

* * *

Ехаць стала дужа небяспечна
І ступаць увечары ізноў
Там, дзе юных ліўняў і снягоў
Горад мой, святое Маладзечна.
Месяц праплывае ціха, гладка,
Зорак толькі лёгкі недарод.
З поезда на поезд пераход,
Нібы ў век мінулы перасадка.



## НА ВОЛІ

Святло лісіц ярчэй
За жоўты ліст бярозавы.
Зарана тут яшчэ
Ці, можа, надта позна вы.

Асеннія грыбы
Хаду сцішаюць статную.
Не прапусціць…
Нібы
Не ведацца са стратаю.

Між соваў і вужоў
Шукаю паратунку я.
Адзін сюды прыйшоў,
Адходжу з юнай думкаю.

* * *

Смяяцца на свята хацеў.
Аж вобраз аднекуль ажыў —
Па белым бязвінным лісце
Плывуць у начоўках дажджы.
Ім неба бракуе і рэк.
Зноў цень над дарогаю звіс.
Плывуць міма крокаў і стрэх
Аблокі на чысты мой ліст.

У вокнах асенняя муць,
І думка, як ноч, настае.
Ці не…
На паперу плывуць
Пахмурныя словы твае.



* * *

Ходзіць дзесьці маладосць
З хмельным маем у абдымку.
Хітры месяц звіў гняздо
На маёй страсе з хмурынкаў.

На сцяне ж маёй жыла —
Можа з неба,
Можа з вёскі —
Невядомага святла
Незнаёмая палоска.

І не спалася ў пару,
Як зляцела птушкай чутка,
Што палоска — з цёплых рук.
На яе ты прыйдзеш хутка.

## З КНІЖКАЙ

Ні Кашпіроўскі, ні Глоба —
Шчасця ніхто не прынёс.
Жоўценькі мікрааўтобус
Прадвырашае мой лёс.

Мы расставаліся міла,
Дзень прадаўжаецца наш.
Я — журавель лёгкакрылы,
Кніжак паўхмаркі — багаж.

Вокладкі час паласаты.
Тут пра цябе
І пра ўсіх.
Пра зарапад па-над хатай
І курапатак малых.

Беразіна за пагорак
Сонная
Пойдзе наўцёк.
Шэпчуцца словы старонак,
Сэрцу чувацца здалёк.



## СВЕТЛАЯ ПРОСЬБА

Здаецца, марыў я пра гэта,
Каб для цябе
Дагледзець змог
Бела-ружовыя букеты
Бяроз асенніх
Ля дарог.

Іх сонца высвеціла з цемры,
Асенняй цемры,
Як з бяды.
Хто верыў мне,
Каму я верыў,
Прашу на міг,
Прашу сюды.

* * *

Праз дваццаць пяць шасэйных год,
Крылаты,
Зноўку па чыгунцы,
Хачу загадкавых прыгод
У поўдзень стромы, вечар куцы.

Пад думнасць колаў, іхні віск
Ужо стамлёнаму нібыта
Не абмінуць ніколі Мінск,
Даўным-даўно напаўзабыты.

Хадзіла мама нацянькі
Да зор.
Парою дужа ранняй
Тэлефаную.
Праз гудкі —
Нібы чыё,
Нібы дыханне.

Пры песні, часе, пры расе
Калі, як крыллі,
Неслі ногі,
Калі прыехаць мелі ўсе,
Сам абяцаў прыехаць многім.



Непадуладная мяжа
Ва ўсім затоіцца чароўна.
Не трэба болей прадаўжаць…
Ступаю я ў святло перона.

❋ ❋ ❋

Свежы ранак сняжынкай прыліп
Да паглядаў,
Да слоў,
Да акна,
І ажыў акасмічаны кліп.
Ты ж, напэўна, сумуеш адна.

Так было:
Маладзіў ледаход,
І лячыла жывое вясна.
Як жа будзе
Праз тысячу год,
Калі ты зноў сумуеш адна?



## БЫЛАЯ ДАРОГА

Калі табе дарога надакучыла,
Якая прывяла
Праз сцюжы і гады
Ў вясновы сад,
Пад воблакі пахучыя,
Якая прывяла цябе сюды,
Яна не будзе болей ні дарогаю,
Ні нават сцежкай кволай
Для мяне.
Маўклівая, пад позіркамі строгімі,
Як след ад znічкі ў небе,
Праміне.

## ВЫЙСЦЕ?

Вам пачытаю грахоўныя вершы,
Песні складу несуладныя
Ці
Выйду насуперак зоркам пацешным…
Іншае, можа,
Пачнецца ў жыцці.



## ПАСПЕЕЦЦА

Дубы — яны і ёсць дубы,
Што ўвосень неба падтрымаюць,
На нас не падала б абы,
Нібы бязлітасная памяць.
Да Нёмна Котра дацячэ
Вірамі і зуброўкі хмелем.
А нам паспеецца яшчэ
Пашкадаваць,
Што не паспелі.

* * *

За снежнай завеяй
Цябе не відаць,
За дрэвамі,
Што падняліся ў рады,
За хмарамі,
Але найболей адно —
Гады засланяюць,
Расстання гады.



## У ПАЛАЦЕ

Анестэзія закуе.
Анастасія верне шанс.
Гады зязюля прадае
Па аднаму
І на запас.

Калі падступіцца пара
Тых залацінак уваччу,
Не абязбольвайце, сястра,
Я пацярплю,
Я жыць хачу.

* * *

Абсалютна бясплатна,
Калі
Захачу і душа пажадае,
Адплываю па гэтай зямлі
Я ў былое,
Дзе ты маладая.
На былінным імчацца кані
Ды прад намі,
Сплаціўшы дарогу,
Нашы дзеці
Ў наступныя дні
Адпраўляюцца, светлыя, з Богам
Праз бяспамяцтва і гарады
Па блакітнай і ўспененай рэчцы.
А як пройдуць гады,
Вось тады
Нам бы хоць
На світанку сагрэцца.



## ТЫ Ж БУДЗЬ

Лячу па краёчку па самым,
Дзе быльнік пякучы і пыльны,
Дзе з ночы цікуе,
Як з ямы,
Мой гром,
Мой звяруга-будзільнік.

Ты ж будзь сярод лугу, у кветках
Навокал —
Са мной,
Не са мною.
Як бераг улетку,
Хоць зрэдку
Я мрою тваёй цішынёю.

## СТРАКАЗА

Маленькае,
Не больш за паўстала,
Паўнюткае аблокаў азярко,
Што нам зямля,
Як сподак,
Падала
Рупліваю, зычліваю рукой.

На паплавок прысела страказа.
Яна, пакуль стагоддзе праміне,
Напэўна, мае важнае сказаць.
А раптам пра цябе і пра мяне…



## РАНІЦА

Ветрык гуляе са слівай,
Грае галінка на промнях.
Танец агністы прыпомніш —
Я ад пагляду шчаслівы.

Тая мелодыя святам
Стане хвілінаю кожнай.
Будзеш заўсёды прыгожай,
Буду бязмежна багатым.

## ПАРА

Свята асенняе
Выглянуць мелася,
Ціха ляцелі за лес журавы.
Першага верасня,
Першага верасня…
Я не забыўся,
І помнілі вы.

Ярка гарэлі
Ў руках гладыёлусы,
Росы туманам
Сплывалі з двара.
Вы прызабытым
Мне чуліся голасам:
— Будзе ўсё добра,
Пара нам,
Пара…



* * *

Позняя хмурная восень
Зноў суцяшае,
Як сватае:
— Зробіш работ сваіх восем —
Дам дзеля шчасця дзявятую.

Будзеш не спаць, сінявокі,
Сны запалоняць гарэзныя.
Прыйдзе нячутна пад вокны
Ночы крывінка — паэзія.

Пальцы кранаюцца грыфа.
Там, дзе сустрэліся вы і я,
Капала, плакала рыфма,
Ліпенем спрытным забытая.

* * *

Каб звоны крыніц не астылі,
Вятрыска лістоў награбе.
Прыляжаш увосень на хвілю —
Адвернецца дзень ад цябе.

Трывожыцца шкодна і рана
Пра вечнасць сівой галаве.
А выйдзеш аднойчы на ганак,
І зоркамі двор ажыве.

* * *

Яшчэ на хвіліну прылягу,
Засну на гадзіну яшчэ,
Каб выхапіць хуткую шпагу
І выстраліць словам ямчэй,
Каб потым, прачнуўшыся, ведаць
Смак поўні
І ворыва пах,
Каб больш ні сумненняў, ні бедаў,
Ні слёз у жаданых вачах.



## ВЯСНА

Яна ідзе,
Хоць дзе-нідзе
І высь, і дол у лёд закуты.
Як па начах пакуль што путы,
Я — буслам на адной назе.

І толькі ў думках і ў душы
Бягуць хвіліны беззваротна.
Уваскрасі яе палотны,
Яе дыханне апішы.

Святлом бліжэе да людзей
Яна паўсюль
З вачэй да Вінчы.
Паглядам за абсяг пакліча,
Пчалой
Дадому прывядзе.

## НАСУСТРАЧ

I

Мая маленькая радзіма
Саслепне ў доўгую зіму.
Яе хоць словам не пакіну,
Дыханнем з раніцы крану.

А там зварушыцца карэнне
Медзведзявата,
Толькі ў сне.
І вось з глыбінь карась паверне
Насустрач дню,
Насустрач мне.

II

Звініць тут небяспечна веццe
Крышталем, памяце калі,
І ты, ледзь раніца засвеціць,
Ступіць паспееш па зямлі.

Гучыць мелодыя былінна,
Насустрач цягнецца са сноў.
І быць вясне
Цераз хвіліну,
Што па-над стрэшшам
Пырхне зноў.



Словы вяртаю і грошы,
Паўзу бяру.
Ля двара
Восені тыдзень апошні
Снежнага календара.

Белай пялюшкаю высі
Потым пазбавяць ад пут.
Хтосьці на ранку з’явіўся,
Я ж…
Колькі й Нёман,
Я тут.

## АСАЛОДА

Трэба мне спасцігнуць асалоду
Нёмана, што падае з-пад ног
Проста ў час гарачы ці халодны,
Быццам бы па-іншаму не мог;
Зоркі, што аднойчы зазіяла
І ў вачах стамілася датла,
Радуючы нас з табою мала,
Нібыта інакш і не магла;
Думкі, што паліла ў веку сталым,
Гнала прынародна прад сабой,
Думкі, што гадоў не шкадавала,
Нібы не народжаная мной.

А свяжуе болей церпка-горкі
Вецярок,
Што мне заўсёды рад.
Бераг, неба,
Думкі-падбухторкі
Там, дзе ты,
Як безліч год назад.



## РАДЗІМА

Ад звонкай цішыні пацешна —
Ты толькі словам не суроч,
І кот зажмурыцца,
Як рэчка
Апошняй хваляю на ноч.

Зноў прадчуванне стане дзівам:
Калі надыдзе ранак мой,
Мая маленькая радзіма
Цяплее доўгаю зімой.

## ПАЭЗІЯ

Ціхая паэзія,
Як памяць,
Як пакорлівы асенні цень,
Я забыў цябе, як забываюць,
Што жывуць на свеце кожны дзень.

Неяк сярод ночы лёгка, проста
Ў белым,
Быццам бы на сенажаць,
Ты сама прыйшла не дзеля помсты,
Не былое мне прыпамінаць.

На куточку ночы пасядзела,
Знікла, пажаданая, ураз.
Толькі змоўчаў здзекліва пад целам
Стоены да раніцы матрац.

Свет пакуль, нібы расінка, цэлы,
Пакладу ў далоні галаву.
Ты мне так нязведана балела,
Што да многіх вёсен дажыву.

# І мовіць слова

Паэма



I

Юнацтва дом
На беразе праспекта
Прыпомніцца, калі сюды ні збоч.
Паверх чацвёрты — лірыкі-паэты,
Вышэй музыкі вершаць дзень і ноч.

Вясковыя,
Мы ліфт міналі купкай,
Таму што ён — стыхія не твая.
Сустрэць цябе
На клавішах прыступкаў
Быў шанец верагодней удвая.

Пад кронамі дажджу
Чакання повен
Наш талент,
Каб аднойчы спакваля
Наблізіўся разгневаны Бетховен,
Купала прыгарнуў,
Апёк Заля.

Прыхільнікі паэзіі цыбатай,
Шукаючы для словаў
Тайных сот,
Мы блыталі
Паверх чацвёрты з пятым,

Нібы з кларнетам
Флейту і фагот.

*

З усіх акон
Твае гучалі пальцы
То россыпна, то перуном, калі
Я слухаў, каб у верасні спаткацца
Аднойчы на прыдуманай зямлі.

Адзін і той жа гук любіў і джаліў,
Студзіў і саграваў ужо другі.
Не думалася, што перашкаджаю
Змываць, тапіць
Стагоддзяў берагі.

Гарыць над уваходам ціхім арка
І толькі з часам робіцца ярчэй.
Над Оршай узыходзіць сонца ярка,
Ля Шчучына спускаецца з вачэй.

Даўжэзны мост,
Надброўем надламаны,
Пад вокнамі напружана замёр:
Мажор высакародна ўсхваляваны,
І крыху затуманены мінор.



*

Юнацтва забывалася дадому
Шляхі,
Пакуль трывога не шапне.
У Раўбічах то спускі, то пад'ёмы
І гладкі лёд надзіва на Дзвіне.

Панеслі лыжы з горкі і пад горку.
Сасонак след паклікаў не туды.
Адна каліна
Соладка і горка
Адначасова поіць на гады.

Празрыстая мішэнь
Ці стомы замець.
Нарэшце аціхаюць паплавы.
Не разумее хітраногі заяц,
Чаму дагэтуль цэлы і жывы.
А там,
Пад снегам, векавая сутнасць
Травінкі,
Слова вашага.
Хаця…
Прыпомніцца,
Як дождж усёмагутны
Штораз вяртаў
Да веры і жыцця.

*

Паклеіў дождж пустыні Казахстана,
І снілася прынёманская рунь.
Сам атаман загадкава-шаманна
Запросіць на вяселле
Звонкіх струн.

Замовамі гарачымі апеты
Далоні мазалістыя за ноч.
Дванаццаць хат
І восем скур за лета,
Апроч пустыні,
Вернасці апроч.

Быў час — нябёс звінелі шыбы,
І кулікі маўчалі над вадой.
Касмічнае юнацтва тое нібы
Дагэтуль на арбіце незямной.

Вярталіся
І ад'язджалі дзеля
Чаго, прысеўшы зноўку на хаду?
Нясвіж і Мір
Маркотна ўслед глядзелі,
Сыходзіла Каложа на ваду.



*

Чырвоны дом стары
Ляціць у вырай,
Ляціць, нутром святлеючы на сон,
Пакуль філфак жуе батон з кефірам
Пад мудры і спагадлівы шансон.

На Энгельса
Па Энгельсе канспекты
Штампуюць,
Як прадвесне ледзяшы.
Маэстра,
Не для сцэны, не канкрэтна,
За так іграй
На супакой душы.

Сакавіком,
Мінуўшы двор, у белым
Чаромха,
Вішня
Ці сама вясна
Міма мяне, здзіўлёнага, прабегла
Ў мелодыю,
Што выплыла з акна.

Мінаю каля Свіслачы пагорак —
Няма нагоды
І няма калі.

Баюся не застаць
Дзвюх цёплых зорак,
Што там
Пры мне
Інкогніта жылі.

*

Прафесару паверылі не скора.
А покуль зацвіталі васількі,
Да ночы дырыжыравалі хорам
Мы з сонцам маладым
У дзве рукі.

Плыў голас там
Нязведаны, анёльскі
Па высях,
Па аброшанай траве.
Не чуцен хор,
А ў вернасці салісткі
Ён паднябесна,
Велічна жыве.

Мы верылі ў акрыленыя словы,
Як добры гром над полем калясіў.
А што ні май,
То свежыя нанова
Радзіму апявалі галасы.



Дзе пачужэлыя за лета трошкі,
Дзе родныя,
Як памяці бальшак,
Ляцяць, ляцяць па свеце адгалоскі.
Што гэта мы,
Не верыцца ніяк.

*

Канікулы
Ці проста час цывільны —
Пад дождж і сонца, прыцемак густы
Ад Мінска ведаў
І да самай Вільні
Пагоркі,
Пералескі
І масты.

Ізноў вітаюць мілыя мясціны,
Паўстанкі, гарады.
Паўсюль спакой.
Ахрэсціны…
А ты жыла Хрысцінай,
Аднойчы памахаўшы мне рукой.

Тае далёкай станцыі ніколі
Не прамінуў
І не праспаў тым больш.
Сівы масток праз рапсавае поле,

Як светла, лёгка,
Спеўна за табой.

Так-так, так-так…
Ахрэсціны маўчалі,
Але да зорак першых,
Да пары.
Пералічыў гады,
Як колісь шпалы.
І просіць мой архангел
Паўтарыць.

*

*Міколу Ермаловічу*

Сівы, у акулярах
І стамлёны,
Ішоў ён між радоў,
Вякоў паміж.
Упершыню я полацкія звоны
Пачуў
І ўбачыў Грунвальд і Нясвіж.

Зямля за мной, здавалася, сачыла,
Пакуль з-за хмар вярталася, здаля.
І павярнулася блакітнымі вачыма,
Дыханнем пасляліўневым
Зямля.



Над Нёмнам
Крона зораў заіскрыцца —
І думкам ёсць прытулачак якраз.
Асыпаўшы лісты,
Як летапісцы,
Магічным кругам
Дрэвы значаць нас.

Жыццё-быццё
Па вышкаленай волі,
Настоенае дзікаю травой.
Прыйшла пара,
Як Вітаўтава колісь,
Любіць Айчыну
Юнай і сівой.

*

Сталічны госць —
Як падарунак боскі.
Матулін вечар,
Песенна калі.
Было студэнтаў па бліжэйшых вёсках
Не больш, чым касманаўтаў на зямлі.

На вежы дзень упершыню спатканы
З табой.
І затуманены касцёл.
Тады ж Адамам Мальдзісам Варняны

Адкрытыя на радасць
І на боль.

Так доўга з памарожанага голля
Іскрынкі часу падалі зімой.
Таццянін дзень
Штораніцу сваволіў,
Вітаючы ад'езд нібыта мой.

Іранізуюць юбілеі,
Тлеюць,
Высвечваюць пад раніцу душу.
Ступаючы па сцішаных алеях,
Маладзіком
Па-рыцарску
Маўчу.

*

Калі дыван дажынкі рассцілалі,
Ад песень ажываў прыгожы твар.
Гула, камарылася каля
Застолля
Басаногая дзятва.

Спявала маці сонцу не па нотах
Пра ручнікі
І месяц уначы.
Спявала маці,



Бацька ж меў ахвоту
Ёй даспяваць прыпеў дапамагчы.

Як стала росна, велічна наўкола,
Плыў сіняваты церпкі, дзікі дым,
Хацелася і мне
Пачуць свой голас
На беразе азёрным трапяткім.

Затым дажджлівы чэрвень,
Снежань коўзкі,
Шчыльней язмін
Да шыбіны прынік.
На тым прыпынку ціхім,
Каля вёскі,
Даўно не запыняецца цягнік.

II

Рукам паверу
І калоссю,
Яшчэ — табе.
І ты мне вер.
У тым стагоддзі давялося
Жыць,
А пісаць — ужо цяпер.

Дзядоўскаму пагорку веру,
З якога дзень святы ўстае.
Заўжды адчыненыя дзверы

Для вас,
Здарожаных,
Мае.

Пачнём жыццё з табой нанова,
Што не пад сілу аднаму.
Якое шчасце
Верыць слову
І мовіць слова
Самаму.

*

Апошнім поле тое зжалі.
Раскопак след жыве між рос.
І храм званамі і крыжамі
Ў блакіт нябёс навек урос.

Дзе Марцылюдка дажывае
Яшчэ асенні дзень адзін:
А Людка — панна маладая,
І закаханы пан Марцін.

Апошнім зжалі поле тое,
Дзе назаўсёды маладым
Адданы Нарбут дбаў аб волі,
Дзе Нарбутова сніць аб ім.



*

Нібы на дне,
Стаў невідушчым
І без людзей
Стаў край нямым.
Адзін асочнік* сярод пушчы,
Як ліст дубовы між зімы.

Ад вока ценямі адцёрта
Любові постаць без надзей.
Адзін асочнік,
Нібы Котра —
Ні мора побач,
Ні людзей.

Ідзе,
І прырастаюць крокі,
Ідзе гадам наперарэз.
Адзін,
Але не адзінокі,
Пакуль —
Трава,
Аблокі,
Лес…

* Асочнік — у мінулым аглядчык лесу.

*

Там, дзе бабёр
Плаціну летам,
Хаціну ўвосень на гады
Узвёў,
Падняўшы дзеля дзетак
Узровень веры і вады,

Жыла гарэзаю Алёна.
Пра тое помніў лесавік
І чалавек,
Які ўлюбёна
Да хвалі роднае прынік.

Дзяўчына — панна і царэўна,
Ніхто сцяжын не перабег.
Ніхто не ведае напэўна,
Адкуль там стаў
Дзіцячы смех.

*

Зямля рукам сказала — годзе
Цягнуць,
Крышыць,
Глуміць
Штодня.
І дваццаць першае стагоддзе
Тут перасела на каня.



Чарніцы і грыбы збіраем,
Хоць усяго сабе зашмат,
Хоць самалёты па-над краем
І атачэнне аўтастрад.

Жывуць ля возера-падковы
Пад векавы смалісты гімн
На правым беразе —
Саковіч
І Антухевіч на другім.

*

Затравіць полька зухавата,
І песня-плач
Спірае дых —
Вяселле з тыдзень меціць хаты
І з маладымі,
І без іх.

Яны ж у вырай птушкай міма
Ляцяць удзень,
У зарапад
Ад вокнаў,
Сцежак —
Ад радзімы.
І не вяртаюцца назад.
Але ж на весну хтосьці першы
Шапне «кахаю» і «люблю».

Праросцім душы
Светлым вершам,
Зярняткі кінуўшы ў раллю.

*

Да берагоў вадою талай
Вясна прыходзіла наноў,
Усё наноў распачынала —
Чаканне, слёзы і любоў.

Крыламі лебедзі будзілі
Сцяжынкам першым ва ўнісон
Нясмелы позірк
Белых лілій,
Чаромхі чад,
Кляновы звон.

Затым спускаліся на воды,
Як немаўлятка з цішыні
На рукі матчыны сыходзіць
Распачынаць нанова дні.

*

Хто і на што
Глядзеў больш міла,
Чым на ідылію, калі
Да рук багінь
З-за небасхілу



Па думках
Лебедзі плылі.

Пасля заняткаў гром і вершы
Мы ім дарылі назусім.
Твой хлеб для іх
Крыху смачнейшым
Здаваўся, пэўна.
А затым

Над намі птушкі
Моўчкі,
Стала
Ўзляцелі.
Іх відацца ледзь.
І не таму, што зімка стала,
А каб аднойчы
Прыляцець.

*

Вадзіца тут цякла ў ахвоту
Адкуль, куды…
І нічыя.
Бабёр камусьці пазалоту
Сабраў на памяць з ручая.

Бяроза там расла
Над намі,
Пакуль дрымучы чалавек

Яе, аблапіўшы рукамі,
На травы росныя не ссек.

Сцяжына думкай стане віцца
За надакучлівы парог
І хмельным ценем бліскавіцы
Ізноў прытуліцца да ног.

*

І вось ужо ад ласкі божай
Насупраць — раніца вачэй.
Куе зязюля
Песню гожа,
І травень травеня ярчэй.

Пагладзіць па галоўцы восень,
А потым згадку прынясе:
Якая радасць — дваццаць восем,
Якая роспач — трыццаць сем.

Цябе не стрэну болей шчырай
І зразумелай,
Як вада.
Ляці, ляці, радок, у вырай,
А мне рабін
З акна шкада.



*

Жыву.
Ёсць шанец падзівіцца,
Бо тая вёсачка якраз
За светлы погляд ад гасцінца,
Дзе ў новай світцы
Едзе час.
Вясёла-снежны на Каляды,
Пахмурна-стоены на дождж.
Падсесці побач кожны рады,
Пабачыць зноўку маладосць.

Лячу, як колісь, на палоззях,
Стрымацца б толькі ля вясны…
Па незнаёмае дарозе —
Чужыя вербы і дубы.

*

Над котранскаю пазалотай
Стагоддзі праплывалі тут.
За мохам дзесьці,
За балотам
І за масцішчам вёўся люд.

Якой назад дарогай будзе
Здалёк наведацца сюды,
Дзе пастарэлі дужа людзі,
Як разрасліся гарады.

Сцяплее сок вясною кожнай,
І, звёўшы гнёзды пакрысе,
Стаяць буслы бездапаможна
На вечаровае назе.

*

Ласям
За Котрай бераг сніцца
Далёкі, ціхі,
Бы нямы.
І, парушаючы граніцы,
Вятры не згодныя з людзьмі.

У звыклы год
Ці ў высакосны
Над ройстам — шпаркі матылёк.
Вялікакняжацкія сосны
Пераглядаюцца здалёк.

Перажыве над краем думка
Бязродны пост,
Лядашчы час,
Пакуль душа
Кранае струнку,
Пакуль мой верасень
Не згас.



*

Пачнём жыццё з табой нанова,
Што не пад сілу аднаму.
Якое шчасце — верыць слову
І мовіць слова
Самаму.

## ЗМЕСТ

### Па-над, або Перад вершам

Песня мая ........................................ 5
Перад вершам ........................................ 6
Твае словы ........................................ 7
* * * На фоне чэрвеньскіх дажджоў… ...... 8
Існасць ........................................ 9
Час ........................................ 10
Зорная жарства ........................................ 11
На вейках Беларусі ........................................ 12
Пры каміне вечара ........................................ 13
* * * Былі кароткія сустрэчы… ................ 14
Услодыч ........................................ 15
Анёлачак ........................................ 16
Зорка ........................................ 17
Гэты пах алычы ........................................ 18
Бусловы снег ........................................ 19
Назусім ........................................ 20
Пасля навальніцы ........................................ 21
* * * Жаўцеюць кніжкі на паліцах… ......... 22
Ластаўка ........................................ 23
* * * Трымаўся ліст за голле ледзь… ......... 24
Буры ........................................ 25
За нас ........................................ 26
Птушкі і зіма ........................................ 27
Студзень ........................................ 27
* * * Адышоўся зусім недалёка… ............ 28
Сподак вечаровы ........................................ 29



* * * Ад сівых праблем ужо нідзе… .......... 30
* * * Ты адчуваеш моц сваю… .................. 31
* * * А вецер у соснах пакрэктваў… ........ 32
Пазапаэтычнае ........................................ 33
Лесу ........................................ 34
* * * Яшчэ не ведаеш, што будзе… ........... 35
* * * Нібы няўцешнай крыніцы… .............. 36
* * * Ядраныя яблыкі… ............................ 37
* * * Другія суткі… ................................. 38
Ява ........................................ 39
* * * Дзень нараджэння жанчыны… ......... 40
* * * Усё замярзае, але… ......................... 41
Незваротная ноч ........................................ 42
Прадвесне ........................................ 43
* * * Я непрыкметны госць, як хтосьць… ..44
Фортка ........................................ 45
Каб восень познюю любіць ........................ 46
* * * Палоўка мяне — нібы ў хаце… ......... 47
* * * Хацелася піць… .............................. 48
Жарабя ........................................ 49
Кружэнне ........................................ 50
Шукай ........................................ 51
Са мной мой дзень ........................................ 52
На Краскове ........................................ 53
Сёння ........................................ 54
У вышыні ........................................ 55
Пра буслоў і чалавека ............................ 56
Лістапад ........................................ 57
Сад ........................................ 58

## На, або Песня пад мароз

Гасцінец ....................................................61
Ноч у Астраўцы ........................................62
Дажджынкі ...............................................64
Чытаючы ..................................................65
* * * Не выб'ецца сінь з берагоў… ...........66
Пасля буры ...............................................67
Травы........................................................68
Гісторыя....................................................69
* * * Здаецца, сёння пяцьдзясят… ............70
Тарка .........................................................71
Вецер.........................................................72
Вобразы лета .............................................73
Ноч на пару...............................................74
* * * Пад ногі кладзецца ігліца… ...............75
Нелюдзі.....................................................76
Столькі на гэтулькі ....................................77
* * * У неба цёплы край закуты… .............78
Не апошні год............................................79
Яшчэ ........................................................80
* * * За Бярэсце, за сённяшні Брэст… .....81
Дзень другі................................................82
* * * Прывыкай да мяне, прывыкай… .......83
Прысвячэнне..............................................84
Пад руку ...................................................85
Дзяцел ......................................................86
* * * Аблокі плывуць… .............................87
Вязка.........................................................88
Возера ......................................................89
Вячэрнія страсці ........................................90



Раз, два… .................................................91
* * * Міколку ў школе дрэнна… ................92
Смех..........................................................93
На свята ....................................................94
* * * Я, юны, у год высакосны… ...............95
Напярэдадні ...............................................96
* * * Пакуль разважліва і горда… .............97
У дарозе ....................................................98
* * * Свет, незразумелы і таемны… ..........99
У звярынцы .............................................100
* * * Накіп гарачага дня… ........................101
* * * Холад доўгай восені плыве… ............102
Ураган......................................................103
Сумная вячэра...........................................104
Пачулася ..................................................105
* * * Мой горад чакае мяне… ....................106
Яна...........................................................107
Панядзелак...............................................108
* * * Старажытныя мы антыподы… ..........109
Школьны двор...........................................110
Медавуха .................................................111
Бабулін Жыжа ..........................................112
Рэчка........................................................113
Карані ......................................................114

## Ува, або Насустрач

* * * Ты не ведаеш, пэўна, пра гэта… .......117
Млынар ....................................................118
Вёска. Вечар.............................................119
Хваляванне ..............................................120

Святло....................................................121
Бітва .....................................................122
Зіме.......................................................123
Ля валуна .................................................124
* * * І што з табой у снезе бавіцца?.. ........125
Разлад ....................................................126
Сустрэнемся, як зоркі .............................127
Хвіліна....................................................128
Сонечны сад ...........................................129
Саломінкі-травіначкі ..............................130
Дыханнем роўным....................................131
* * * Ехаць стала дужа небяспечна… .......132
На волі ....................................................133
* * * Смяяцца на свята хацеў… ................134
* * * Ходзіць дзесьці маладосць… ............135
З кніжкай ...............................................136
Светлая просьба .....................................137
* * * Праз дваццаць пяць шасэйных
год… ..................................................138
* * * Свежы ранак сняжынкай прыліп… ...140
Былая дарога ..........................................141
Выйсце?...................................................142
Паспеецца................................................143
* * * За снежнай завеяй… .......................144
У палаце..................................................145
* * * Абсалютна бясплатна… ..................146
Ты ж будзь ..............................................147
Страказа .................................................148
Раніца .....................................................149
Пара........................................................150



* * * Позняя хмурная восень… ................151
* * * Каб звоны крыніц не астылі… ..........152
* * * Яшчэ на хвіліну прылягу… ................152
Вясна ......................................................153
Насустрач ...............................................154
* * * Словы вяртаю і грошы… ..................155
Асалода ..................................................156
Радзіма...................................................157
Паэзія......................................................158

**І мовіць слова**. *Паэма*..............................159

*Літаратурна-мастацкае выданне*

**Бялячыц** Рычард Станіслававіч

**ПОМНЮ, ШТО ЖЫВУ**

*Вершы, паэма*

Адказны за выпуск *Г. Вінярскі*
Рэдактар *Ю. Голуб*
Вёрстка *Л. Вайчок*
Карэктар *Н. Кучмель*

Падпісана да друку 29.04.2013. Фармат 70x90 1/32.
Папера афсетная. Ум. друк. арк. 6,87.
Ул.-выд. арк. 3,74. Наклад 180 ас. Зак. 291.

ПУП «Кнігазбор».
Ліцэнзія № 02330/0003924 ад 08.04.11.
Вул. Я. Лучыны, 38-93, 220112, Мінск.
**Тэл./факс (017) 207-62-33,**
**тэл. (029) 772-19-14, 682-83-86.**
E-mail: bkniha@tut.by

Надрукавана з арыгінала-макета заказчыка
ў ААТ «Аргбуд».
Ліцэнзія № 02330/0494197 ад 03.04.09.
Вул. Берасцянская, 16, 220034, Мінск.